© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

У нумары: ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА • ТРАГЕДЫЯ У ДУБІЧАХ АСОЧНЫХ • КАЛЮЧАЯ ГІСТОРЫЯ

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 23 (484) | ГОД X | 6 ЧЭРВЕНЯ 1965 ГОДА | ЦАНА 60 гр.

## ЗА ПРАЦУ

Сёлеташнія дні асветы, кніжкі і друку былі асабліва багатымі і каляровымі. Як штогод і сёння дзесяткі заслужаных для культуры людзей атрымала адзнакі і ўзнагароды. Ваяводская ўрачыстасць Дня Дзеяча Культуры вельмі прыемна прайшла ў «Клубе сямі», які знаходзіцца ў Доме друку.

Адзнаку Заслужанага Дзеяча Культуры атрымала 22 асобы, між іншым (нам знаёмыя) Аляксандр Харкевіч — настаўнік з Ляшукоў, Рышард Гратоўскі з Саюза аматарскіх тэатраў, Станіслаў Какарэка з ЗМВ, Генрых Малышка — вядомы настаўнік танца, Мечыслаў Пушкевіч — дырэктар прадпрыемства «Рух».

Дзесяць асоб атрымала грашовыя ўзнагароды Міністра Культуры. (вл)




М. Забэйда: МЕМУАРЫ.

Ул. Паўлючук: ПЕСНІ МІЖВАЕННАГА ДВАЦЦАЦІГОДДЗЯ.

М. Пецюкевіч: СА СТАРОНАК ПАБУКОВАГА ДРУКУ.

## У АДЗІНСТВЕ—СІЛА

30 мая. Па календару як быццам звычайны веснавы дзень — нядзеля. Але мы даўно яго чакалі. Рыхтаваліся, як да вялікага свята.

І гэта было сапраўднае ўсенароднае свята. Пачалося яно з самага ранку. Мільёны людзей заспяшаліся на свае выбарчыя ўчасткі. Уся наша краіна галасавала за сваю будучыню, дэманстравала згуртаванасць вакол Фронту адзінства народу, выказвала сваю падтрымку ўказанням ПАРП, кіруючай сіле мільённых працоўных мас у пабудове сацыялізма ў нашай краіне.

Бо інтарэсы партыі і народа абсалютна супадаюць, мэты ПАРП і працоўных людзей аднолькавы — асягнуць найвышэйшы ўзровень дабрабыту для народа, збудаваць сацыялістычную грамадскасць, не дапусціць да пажару вайны, умацаваць на нашай планеце мір. Што можа быць больш узнёслае, больш адказваць перакананням і імкненням нас усіх! Гэта менавіта вырашае аб велізарнай атракцыйнасці палітыкі нашай партыі.

Галасуючы аднадушна за кандыдатаў Фронту адзінства народу грамадзяне нашай краіны горача апрабавалі палітыку партыі, якая прычынілася да развіцця Польшчы. А гэта відавочна на кожным кроку. Нас, беларусаў, апрача эканамічных, культурных здабыткаў ПНР цешаць яшчэ асабліва ўмовы, якія стварыла народная ўлада для нацыянальнага развіцця меншасцей, у тым ліку і нашай, беларускай. Дзесяткі школ, у якіх навучаецца родная мова, нацыянальная арганізацыя, выдавецтвы, усё тое, аб чым не маглі і марыць у перадваенны час нашы бацькі, не можа не напаўняць нашы сэрцы ўдзячнасцю, не выклікаць у нас гонару за свой нацыянальны аванс, за сваю родную краіну, за сваю кроўную ўладу.

Вельмі нас цешыць той факт, што беларуская вёска Баброўнікі, у Беластоцкім павеце, першай у ваяводстве далажыла аб заканчэнні галасавання, што Гайнаўскі павет, які, як вядома, па нацыянальнаму складу ў асноўным з'яўляецца беларускім, прагаласаваў першым у ваяводстве. Гэта несумненнае сведчанне адданасці беларускага насельніцтва народнай уладзе, сведчанне высокага патрыятызму. Беларусы Беласточчыны разам з усім польскім народам галасавалі за сваю будучыню, за далейшае развіццё народнай Польшчы, прадэманстравалі згуртаванасць вакол ідэяў і праграмы Фронту адзінства народу.

У адзінстве — сіла! З гэтай праўдай усе мы ішлі ў дзень выбараў на свае выбарчыя ўчасткі. Гэта праўда святкавала перамогу.



Не пазнаць цяперашняга Беластока — каляровыя, стройныя і высокія дамы, а вуліцы шырокія, асфальтаваныя і простыя.

Калісьці Беласток быў падобны хутчэй за ўсё на вялікае мястэчка. Але гэта было калісьці...

Тэкст і фота — (СЯ)

## КОНКУРС НА БЕЛАРУСКУЮ ПЕСНЮ

Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства аб'яўляе конкурс на беларускую песню. Да конкурсу можа прыступіць кожная дарослая асоба. Заяўкі аб удзеле ў конкурсе трэба складаць да 20 чэрвеня ў аддзелах БГКТ у паасобных паветах. Пасля праслухання і закваліфікавання аддзелам, лепшыя спевакі прымуць удзел у цэнтральных элімінацыях у Беластоку 27 чэрвеня бягучага года. Кожны з удзельнікаў конкурсу павінен выканаць дзве песні на беларускай мове. Прадбачаны ўзнагароды. Першая ўзнагарода ў суме 500 зл., другая — 300 зл. і трэцяя — 200 зл. Таленавітыя салісты маюць магчымасць атрымаць сталую працу ў эстрадзе «Лявоніха».



## Выпісвайце „НІВУ" на летнія месяцы!

Яшчэ не так даўно клюковіцкая пошта не магла пахваліцца добрай папулярызацыяй нашага часопіса «Ніва». Выразны рост падпіскі «Нівы» пачаўся ў апошні год—два. На месяц студзень г.г. было ўсяго 47 падпісчыкаў, у лютым — 52, у сакавіку — 58, а ў красавіку ўжо 94 падпісчыкі «Нівы». У маі роўна 100.

У папулярызацыі нашага часопіса ў клюковічаўскай старонцы моцна прычыніўся Анатоль Мартыновіч, кіраўнік школы ў Вілінаве, дзе налічваецца аж 47 падпісчыкаў. Школа ў Зубачах мае 18 падпісчыкаў, а школа ў самых Клюковічах — усяго раптам 15 падпісчыкаў.

Бачым, як многа залежыць ад добрай волі нават аднаго чалавека. (ся)

## ЗА ЧЫСТЫЯ ГАРАДЫ

Як і ў мінулыя гады, маем і сёння конкурс на найчысцейшы і найбольш эстэтычны горад Беласточчыны. Дагэтуль да конкурсу прыступіла 18 гарадоў.

Прэзідыум ВРН вызначыла ўзнагароды па 250.000, 150.000, 100.000 зл. і 2 выружненні па 50.000 зл.

Сумы вартыя змагання. Хто іх возьме? (вл)

## Заслуга—пашэўна

З выпадку шостай гадавіны існавання спулдзельні турыстычна - адпачынковай «Грамада» ў Беластоку старшыня Прэзідыума ВРН Стэфан Жмійка перэслаў «Грамадзе» пісьмо ўдзячнасці за працу і дасягненні. Пісьмо пералічвае галоўныя заслугі «Грамады»: 500 тысяч людзей з вёскі скарыстала з розных выездаў у свет, экскурсій; арганізацыя першых у краіне экскурсій салтысоў; акцыя «вёска бліжэй тэатра». (вл)

## Зямля Беластоцкая прыпамінае

У клубе працаўнікоў культуры ў Беластоку (клуб змяшчаецца на паверсе над кіно «Покуй») дзейнае выстаўка «Зямля Беластоцкая прыпамінае». Прысвечана яна выдадзеным кнігам і сабраным дакументам Аляксандра Амільяновіча. Выстаўка выклікае вялікае зацікаўленне. (вл)



Прафесар др Антаніна Яблонская ў размове з дырэктарам Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гельску Падляшскім — Яраславам Кастышэвічам. (Да «З Варшавы ў Белавежу», Стар. 5). фота: Паўлючук

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



## На шырокім свеце

# „ПРАБЛЕМА НУМАР АДЗІН"

У апошні час любімым канькам амерыканскай прапаганды сталі звышаптымістычныя заявы аб стане эканомікі ЗША. Даволі высокі ўзровень вытворчасці, дасягнуты ў 1964 годзе, некаторыя буржуазныя эканамісты спрабуюць выдаць за пастаянную тэндэнцыю, уласцівую капіталістычнай эканоміцы.

Што ж, новага ў гэтым нічога няма. І ў мінулым, калі па слядах чарговага спаду прыходзіў часовы бум, чуліся бадзёрыя галасы аб надыходзе «новай», «бяскрызіснай» эры. Але мінуў год — другі, і заакіянская эканоміка зноў кацілася ўніз... Аднак, ёсць і нешта новае: перанапружаная эканоміка ЗША нават у больш спрыяльныя перыяды не можа цалкам пазбавіцца крызісных з'яў, вызваліцца ад пякучых і невырашальных праблем. І гэта — абвінаваўчы акт усёй капіталістычнай сістэме.

«Праблему нумар адзін», якая азмрочвае жыццё мільёнаў амерыканцаў, узняў нядаўна старшыня прафсаюзнага аб'яднання АФП-КВП Джордж Міні. Гутарка ішла аб беспрацоўі, аб гэтай жахлівай бядоце, якая, нібы дамоклаў меч, вісіць над галавой кожнага жыхара «аднапавярховай Амерыкі». Выступаючы з прамовайва універсітэце Браўна, Міні прама сказаў, што «з 1953 года беспрацоўе амаль пастаянна паўзло ўверх. Нават у 1964 годзе, у год рэкордных прыбыткаў, больш як 5 працэнтаў нашага народа не мела работы».

Міні прыводзіць лічбу беспрацоўных, узятую з афіцыяльнай урадавай статыстыкі ЗША. Але ён жа выкрывае фальсіфікаваны характар гэтай статыстыкі. Справа ў тым, што ў 5% беспрацоўных не ўключаны звыш 2 мільёнаў рабочых, якія былі толькі часткова заняты, бо не маглі знайсці работы з поўным рабочым днём. Да таго ж трэба дадаць, паводле слоў Міні, «не менш як адзін мільён, а, магчыма, і два мільёны чалавек», якія наогул апынуліся паза рынкам рабочай сілы. «Яны перасталі шукаць работы, — гаворыць Міні, — таму што работы проста не было. Але наша афіцыяльная статыстыка не ўключае іх у лік беспрацоўных».

— Калі ўлічыць часткова занятых рабочых і тых, хто выбыў з рынка рабочай сілы, то ў сапраўднасці колькасць беспрацоўных складае не пяць, а хутчэй 7,5 працэнта, — вось вывад, які робіць старшыня АФП-КВП.

Характэрна, што беспрацоўе ў ЗША б'е па ўсіх рабочых — кваліфікаваных, паўкваліфікаваных і некваліфікаваных. У 1964 годзе колькасць беспрацоўных рэзка ўзрасла для ўсіх гэтых груп у параўнанні з 1953 годам.

Сярод беспрацоўных Амерыкі значную частку складае моладзь ва ўзросце да 25-ці гадоў. Колькасць беспрацоўных сярод моладзі перавысіла 10 працэнтаў, што ўдвая больш за ўзровень беспрацоўя для ўсіх рабочых у цэлым.

Яшчэ больш трагічнае становішча рабочых неграў.

А наперадзе — ніякага прасвету ні для белых, ні для «каляровых» рабочых. На рынак працы, на «біржу» няспынных пошукаў хоць якой-небудзь работы з кожным годам трапляе ўсё больш моладзі. У 1965 годзе дасягнуць 18-цігадовага ўзросту 3,7 мільёна маладых амерыканцаў, што прыкладна на адзін мільён больш, чым у 1964 годзе. Праз пяць гадоў сярод дарослага насельніцтва ЗША 20 працэнтаў будзе складаць моладзь ад 18 да 24 гадоў. І Міні папярэджвае: «Калі захаваецца цяперашні высокі ўзровень беспрацоўя сярод маладых рабочых, то ў сувязі з павелічэннем іх колькасці нас, бясспрэчна, чакаюць непрыемнасці».

Але ў тым якраз і справа, што капіталізм бяссільны скончыць з беспрацоўем і нават не ставіць перад сабой такой мэты. Прыбыткі манаполіі растуць, калі за варотамі фабрык і заводаў знаходзяцца мільёны пазбаўленых работы людзей. Вядома, містэр Міні, гэты вельмі далёкі ад патрэб працоўных ЗША прафсаюзны бос, не адважваецца сказаць тут усю праўду. Ён звальвае віну за ўсе беды рабочага класа Амерыкі на аўтаматызацыю і тэхнічны прагрэс. Але ж новая тэхніка сама па сабе не з'яўляецца ворагам чалавека. Толькі ў руках капіталу яна ператвараецца ў сапраўднае бедства для працоўных людзей.







На здымку: Прэзідыум канферэнцыі.

## Гарадская канферэнцыя

22 мая адбылася канферэнцыя гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Дакладчык, старшыня аддзела, Уладзімір Куршэль у прачытаным дакладзе найбольшы акцэнт палажыў на выбарчую кампанію, заклікаў усіх членаў БГКТ аддаць свае галасы на кандыдатаў Фронту адзінства народу. Звярнуў таксама ўвагу на дасягненні і хібы ў працы гарадскога аддзела.

У дыскусіі выступіла 13 асоб. Вёў канферэнцыю член праўлення аддзела Васіль Баршчэўскі. Канферэнцыя закончылася выступленнем таленавітага мастацкага калектыву з Паўлаў, які даў мантаж мясцовых народных песень і п'есу пад загалоўкам «Хто прыйшоў ноччу». (мх)

## Новы гурток БГКТ

У Грыгораўцах, Бельскага павета, паўстаў новы гурток БГКТ. Пакуль што запісалася 11 членаў. Трэба адзначыць, што супрацоўніцтва з аддзелам БГКТ у Бельску грыгораўская моладзь даўно вяла.

На сходзе выбрана праўленне гуртка ў складзе: Валя Шкода — старшыня, Ольга Стэпанюк — сакратар і Мар'я Крот — скарбнік.

Жаночае, але баявое, праўленне паведаміла, што выступіць у элімінацыях драмгурткоў. У далейшым члены гуртка плануюць уключыцца ў пабудову святліцы-рамізы, каб прыдбаць сабе куток. Цяпер цяжкавата, бо і сходы адбываюцца ў прыватных хатах. Жадаем усяго добрага і супрацоўніцтва з «Нівай». (ак)

## Агляд у Бельску

У памяшканні Бельскага дома культуры адбыўся агляд беларускіх драмгурткоў. Сюды прыехала моладзь з Паўлаў, Рыбалаў, Маліннік і некамплектны калектыў з Раек (адзін з членаў калектыву захварэў). Камісія прызнала найлепшым гурток з Паўлаў, які выступаў з пастаноўкай «Хто прыйшоў ноччу». Ён паедзе на агляд калектываў у Беласток. Апрача таго камісія рашыла звярнуцца да ГП БГКТ, каб дапусціць да ваяводскага агляду калектыў з Рыбалаў.

Усе калектывы былі ўзнагароджаны. Апрача таго прызнана індывідуальныя ўзнагароды за найлепшае выкананне роляў. Іх атрымалі: Віктар Віснеўскі з Рыбалаў, Юры Іванчук і Анна Базылюк з Маліннікаў, Сяргей Філіпюк і Васіль Галубоўскі з Паўлаў.

— Узровень калектываў быў аднолькавы, а Паўлы толькі крыху перавышалі іншыя гурткі, — сказаў член журы Васіль Кардзюкевіч.

Мы хочам дадаць, што агляд быў на вышэйшым узроўні, як у мінулым годзе. Калектывы дабралі сцэнкі больш адпаведныя і цікавыя. (ак)

## Успаміны 6




У нас на Бельшчыне ў 30-тых гадах выразна адчуваўся вялікі ўздым. У Гайнаўцы, напрыклад, штораз узнікалі забастоўкі. Мы лічылі сваім абавязкам несці дапамогу бастуючым, а перш за ўсё збіраць ім прадукты харчавання. Хадзілі па вёсках і прасілі ў людзей, а людзі давалі ахвотна, нават самыя найбяднейшыя не адказваліся.

Памятаю, быў Вялікдзень 1932 года. На Вялікдзень, як старынны абычай кажа, людзі дараць сабе ўзаемна яйкі. Пастанавілі мы гэта выкарыстаць на ўласны рахунак. Даручылі камсамольцам сабраць як найбольш яек. Яйкі можна прадаць, а грошы патрэбны на МОПР-аўскі фонд. Паўка Карыцкі, Пеця Захарчук, Толік Глеб і некалькі дзяўчат (забыў, на жаль, іх прозвішчы. Зрэшты, павыходзілі яны замуж і маюць ужо прозвішчы сваіх мужоў), узяўшы кошык, пайшлі па хатах. Людзі не шкадавалі. Дарылі шчодра. Назбіралі яны аж два вялікія кошыкі яек.

Хтосьці паведаміў бельскіх паліцаяў. Прыпёр Радульскі са сваімі сябрамі. Арыштавалі яны нашыя яйкі і пакінулі іх у солтыса Мінкевіча.

Мы даведаліся пра гэта і згодна пастанавілі адабраць яйкі солтысу. На другі дзень сабраліся разам усе дзяўчаты і хлопцы з усіх Праневіч. Гарманіст Толік расцягнуў свой баянчык і з песняй пайшлі мы праз вёску. Спыніліся ля солтысавай хаты. Толік іграе, а мы спяваем рускія камсамольскія песні.

Не стрымаў солтыс. Выйшаў да варот.

— Чаго шуміць кавалерка? — пытае солтыс Мінкевіч.

— Аддайце нам, дзядзьку, нашыя яйкі, што мы ўчора на вёсцы сабралі, — гавару я, выступаючы наперад.

— Не, не аддам, — цвёрда кажа солтыс.

— Не аддасце па добрай волі, сілай возьмем, — гавару я таксама цвёрда, а сябры — дзяўчаты і хлопцы — гуртам крычаць мне ў падтрымку:

— Што з ім талкаваць! Забраць сваё і ўсё!

— Яйкі цяпер не вашыя! — бароніцца солтыс. — Яны пад арыштам, не аддам!

— Дзяўчаты, чуеце?! — звярнуўся я да нашых прыгажунь.

Ім ды і паўтараць не трэба. Адна за адной скочылі, як гібкія сарны. Гарманіст Толік расцягнуў шырэй свой баян, і мы наперлі на солтыса. Мінкевіч уцёк аж пад клуню і толькі з-за вугла глядзеў воўкам, як дзяўчаты выносяць з каморы кошыкі з яйкамі, а за імі бяжыць солтысава жонка і галосіць свае «благаславенствы». Яйкі мы адразу добра схавалі.

Солтыс аднак заўзяўся. Паслаў кагосьці за паліцыяй. Гранатовыя прыперлі яшчэ гэтага ж самага дня.

Мы сабраліся пад Шурбаковым вязам. Спадзяваліся найгоршага. Дагаварыліся тады, як трымаць сябе ў час допытаў.

Паліцаі клікалі кожнага аддзельна. Асабліва доўга трымалі мяне.

— Навошта збіралі яйкі? — пытаў здаравенны Радульскі, пыхкаючы сваю неадлучную люльку.

— Хацелі баль наладзіць пры святочнай нагодзе, — адказваю я цалкам сур'ёзна.

— Хлусіш! — грыміць Радульскі.

— Ей богу, не хлушу! — б'юся кулаком у грудзі. — Запытайце другіх.

— Хто быў ініцыятарам гэтага, ты?

— Я? Адкуль жа!

Да позніх гадзін вечара мучылі нас паліцаі сваімі допытамі, але нічога не дапыталіся. Усе, як у хоры, паўтаралі, што гэта былі яйкі дзяўчат і яны іх разабралі кожная па столькі, па сколькі склаліся. Больш нічога паліцаі не змаглі з нас выцісняць. Пакінулі тады нас свайму лёсу, а самі накіраваліся да солтыса, дзе квасцела гарэлка і чакала багатае святочнае.

Яйкі, мы перадалі нашаму тэхніку, Піліпу Корсаку.

Ён быў шмат старэйшы за мяне, але супольная барацьба з'яднала нас, як братоў. Я з вялікай пашанай адносіўся да дзядзькі Піліпа, лічыў яго сваім настаўнікам і начальнікам. Зайздросціў яму яго сілы, адвагі і стойкасці, а ўдзячны быў, што ён дапускаў мяне да ўсіх тайнаў. Ведаў я, хто, калі і чаго бывае ў Карсака, ведаў, дзе хавае ён гэта ўсё, што ў нашым падраёне сабралі на МОПР-аўскі фонд.

Гаспадарка ў Піліпа Карсака была невялікая, але часта ён знаходзіўся ў раз'ездах. Мне гаварыў, што выконвае партыйныя заданні. Я тады заступаў яго дома. Малаціў збожжа, сек дровы, хадзіў у поле. Заплаты ніколі я не браў. Нават мне ў галаву не прыходзіла, каб патрабаваць грошай за дапамогу свайму таварышу. Лічыў гэта сваім абавязкам.

Зімой 1932 года доўга баставалі лесарубы Супраслі, Саколкі і Белавежы, успыхвалі забастоўкі ў Гайнаўцы.

Па гэтай прычыне з'явіўся ў нас інструктар Акружнога Камітэта КПЗБ. Нарада адбылася ў хаце Піліпа Карсака. Сабраліся амаль усе сакратары з Праневіцкага Падрайкома. Разглядалі толькі адну справу: як дапамагчы бастуючым?

Пасля гэтай нарады да Карсака штодзень заязджалі падводы з навакольных вёсак, прывозілі муку, крупу, бульбу, масла, шмалец, сала, мяса — словам усё, што ўдалося сабраць, а Карсак, як раённы тэхнік, абавязаны быў гэта высылаць далей — камітэтам бастуючых рабочых.

Перада мною ён не скрываўся. Тады вось заўважыў я, што Карсак далёка не ўсё сабранае праз таварышоў дабро высылае згодна з прызначэннем. Крыху пакідае сабе.

Пачуўся я так, як бы хто мяне ўдарыў проста ў твар. Рукі затрасліся, злосць разрывала грудзі. Мне не хацелася верыць уласным вачам. Я пільней прыглядзіўся нашаму раённаму тэхніку. Усё, на жаль, пацвердзілася. Нават больш, я мог пераканацца, што Карсак цалкам не меў намеру аддаць бастуючым мопраўскіх грошай. Гэтага я ўжо не стрымаў.

— Дзядзька Піліп, як жа гэтак можна? — запытаў я Карсака.

— Гэта значыць, да чаго ты спяваеш? — прыкінуўся ён дурачкам, але голас яго загрымеў заўзята.

— Навошта вы аставілі вось гэтыя прадукты? — не ўступаю я, паказваючы пальцам на мяшок.

— Аставіў, значыць трэба, і гаўняная твая да гэтага справа! — са злосцю адрэзаў Карсак. Я аднак не ўступаў, проста не змяшчалася мне ў галаве, што мой найлепшы таварыш аказаўся звычайным злодзеем, ды злодзеем агульнага супольнага дабра!

— Бастуючыя галадаюць! Яны чакаюць на гэтыя прадукты! — крычаў я, а шчокі гарэлі сорамам.

— Малады ты, значыць дурны! — сцвердзіў Карсак.

— Я ў Райкоме ўсё раскажу! — гарачыўся я.

— Паслухай, Федзька, — неяк павучальна, але ўжо болей спакойна адазваўся Карсак. — Я многа старэйшы за цябе і ў партыі таксама заслужыў на лепшую пашану. Ці ты ведаеш, колькі часу аддаю я партыйнай дзейнасці? Ведаеш, колькі сіл і здароўя ўсё гэта мяне каштуе?

Я не ведаў. Апусціўшы галаву маўчаў, але ў сэрцы бушаваў ураган і слова «злодзей» біла мне ў вочы, як чэрвеньская маланка.

— Што значыць гэтых некалькі залатовак, або гэты пуд мукі ў параўнанні з маім трудом? — нібыта мяне пытаўся Карсак. — Што, можа мне не належыцца?

Я даўжэй не змог слухаць гэтага талкавання. Пару дзён хадзіў згорблены, як бы жывот мне балеў. Ламаў сабе галаву, што зрабіць, каго параіцца. Хадзіў па панадворку і баяўся глянуць на суседаву хату, а яшчэ болей баяўся сустрэць яго самога.

Урэшце пайшоў у вёску Крывая да Назара Тымашука. Кіраваў ён тады Бельскім Райкомам. Заступаў Лідзію Бялецкую, якую партыя нелегальна перакінула ў Савецкі Саюз, каб вучылася.

Назара Тымашука я ведаў раней. Быў ён добрым таварышам. Няма, на жаль, яго сярод жывых. Суд прысудзіў Тымашука на восем год турмы. Найперш трымалі яго ў Беластоцкай турме, а затым перавезлі ў Драгабыч. Тут агенты дэфензівы Назара Тымашука звычайна павесілі, а сваё злачынства «паяснілі» самагубствам.

Гэта было пазней. А тады, зімою 1932 года, Назар уважна выслухаў мяне і некалькі хвілін моўчкі амаль што бегаў па хаце.

— Піліп... Піліп... хто б падумаў... гэтакая гадасць! Страшэнна! — мармытаў сабе пад носам, а спыніўшыся перада мною, запытаў:

— А ты ўпэўнены? Не крыўдзіш чалавека? Бо паверыць не магу!

— Самі праверце, калі мне не верыце! — крыху абурыўся я.

— Ну, не гарачыся, юнак, але неяк у галаве не памяшчаецца, каб ён мог штосьці такое... то ж ён тэхнік... давераны чалавек...



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



Дыплом ганаровага члена праф. др Дарабяльскай уручае старшыня Таварыства праф. др Гурвіч.

# ХІМІЯ І МЕДЫЦЫНА

**(СА З'ЕЗДА ПТХ)**

Пра хімію гаворыцца многа і часта. Значэнне хіміі расце. Яе прымянення і для нас шукаць далёка не трэба. Хімія цесна звязана з сельскай гаспадаркай. Ведаем, што калі больш зямля атрымае ўгнаенняў, тым лепшы будзе ўраджай. А ўгнаенні — гэта хімія. Пулавы — вядомы вялікі цэнтр прадукцыі штучных угнаенняў.

Пра хімію гаворым сёння яшчэ і таму, што нядаўна ў Беластоку адбыўся Краёвы З'езд Польскага хімічнага таварыства.

З уступным дакладам выступіў доц. др Ю. Паповіч з Беластоцкай Медыцынскай Акадэміі. Тэмай яго даклада быў «Беласток — навуковы цэнтр». Доц. др Паповіч даказаў, што ў Народнай Польшчы Беласток стаўся важным навуковым цэнтрам, дзякуючы дзвюм вышэйшым навучальным установам: Медыцынскай Акадэміі і Вышэйшай інжынерскай школе. Беластоцкая Акадэмія мае 28 кафедраў, якія вядуць уласныя вопыты; 11 прафесараў, 17 дацэнтаў; 1500 навуковых прац апублікаваных у краіне і заграніцай. Доц. др Паповіч падкрэсліў вялікую, усё большую ўзаемную сувязь медыцыны і хіміі. Такі вось прыклад з даклада. Пластычныя масы (хімія) маюць застасаванне ў хірургіі (медыцына). Пластмасы прадукаваныя прамысловасцю незаўсёды добрыя. Адсюль доследы ў клініках і ўказанні прамысловасці, каб прадукавала пластмасы, якія заменяць жывыя органы чалавечага цела.

Беластоцкі З'езд Хімікаў быў урачысты. Некалькі здымкаў і інфармацый аб некаторых удзельніках.

На ганаровага члена Таварыства паклікана праф. др-а Дарабяльскую. Праф. Дарабяльская ў 20-ых гадах працавала ў Радзевым Інстытуце ў Парыжы пад кіраўніцтвам слаўнай Марыі Кюры-Складоўскай. Потым праца на палітэхніках Варшаўскай і Львоўскай. Цяпер на палітэхніцы ў Лодзі. Да Польскага хімічнага таварыства належыць ад 1922 (Таварыства паўстала ў 1919 годзе).

Другім ганаровым членам стаў мгр інж. Антоні Радлінскі — міністр прамысловасці ад 1957 года. Гэта за яго кадэнцыі хімічная прамысловасць здабыла і здабывае сабе належнае месца ў гаспадарцы краіны.

На Беластоцкім з'ездзе прызнана заслужаным польскім хімікам 3 першыя новаўстаноўленыя медалі Енджэя Снядэцкага — выдатнага польскага хіміка і лекара з канца 18 і пачатку 19-га стагоддзяў.

Медалі атрымалі: праф. др Віктар Кемуля з Варшаўскага універсітэта, праф. др Уладзімір Тшэбятоўскі з Вроцлаўскай палітэхнікі, праф. др Тадэвуш Урбаньскі з Варшаўскай палітэхнікі. (вл)



Міністр А. Радлінскі ў размове з доц. драм Ю. Паповічам.

## Мала але цікава

### Без нітак

У Англіі зроблены швейныя машыны, якія шыюць без нітак. Замест нітак гэтыя машыны сшываюць матэрыял ультрагукам.



### На ратунак вулкану

Усім вядома гара-вулкан Фудзіяма, якая знаходзіцца ў Японіі, так патрэскалася, што гатова рассыпацца. Вучоныя надумалі ратаваць вулкан і прыдумалі спецыяльны «каменны клей».



### Свет не без войнаў

Гісторыкі падлічылі, што ад 3200 года да новай эры і да нашага часу на свеце было толькі 292 гады міру. За ўсе астаўшыеся гады адбылося 14.513 вялікіх і малых войнаў. (аяч)



## Навіны экрану

### Тры мушкецёры

Колькі ўжо фільмаў зроблена на падставе слаўнага рамана Дзюма пад вышэй сказаным загалоўкам. І кожны з іх падабаўся, кожны прынасіў багатую касу прадуцэнту.

Навейшая версія — каляровая, на шырокім экране, прадукцыі французска-італьянскай.

«Тры мушкецёры» — першы раман, які рэжысёр перанёс на экран. Было гэта ў 1909 г. Ад таго часу да 1961 года аж 20 фільмаў зрабілі спецыялісты аб трох адважных мушкецёрах яго каралеўскай гвардыі Людовіка XIII.

Што 2—3 гады паяўляецца на экранах новы д Артаньян са сваімі трыма неразлучнымі сябрамі.

Найбольш фільмаў і найлепшых, зробленых аб мушкецёрах, далі ЗША, потым Францыя. У 1934 годзе ў СССР быў зрэалізаваны кароткаметражны рысункавы фільм аб трох мушкецёрах. (вл)

## Аляксей Карпюк
# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

Мне, як сказала жанчына ў бараку, і праўда шанцавала, хоць некаторыя моманты буду памятаць да смерці. Напрыклад, сустрэчу на мосце.

Выпадак у бараку мяне насцярожыў і збіў самаўпэўненасць. Зыходжу з асфальту, пачынаю прабірацца ўздоўж дарог, абыходзіць вёскі і хутары. Снег растаў, хавацца лягчэй. Калі хто ідзе насустрач, кладуся на раллю і зліваюся з цемрай. Ад гразі хутка змарыўся. У мяне былі і так цяжкія чаравікі з двухцалёвай драўлянай падэшвай, цяпер жа на іх наліпла мо' па пуду гліны. Ледзь перастаўляю ногі, а прайшоў усяго кіламетраў з пяць. Нарэшце спыняюся ў бяссільнай злосці. Трэба дабрацца да якой-небудзь станцыі, зашыцца ў вагон і ехаць, інакш — загіну! Вылажу на Мар'ембургскую аўтастраду, абіваю з чаравік гліну, крочу далей. Нібы я стаў на крылы.

Але хутка морыць і асфальт. Месяц заходзіць. Неба завалакло суцэльнымі хмарамі, марасіць нейкая макрэнь. Цемрадзь. Мяне разбірае абыякавасць і атупенне. І раптам чую — паравозныя гудкі. Наперадзе станцыя! Ужо адрозніваю гудок манеўравага паравоза — тонкі, чысты. Перада мной — Мар'ембург.

З левага боку свеціцца зарыва, унізе блішчыць стужка якойсьці шырокай ракі. Крыху правей куды, вядзе аўтастрада, чарнее горб маста. Дзе мост, там і варта. Але валачыцца па раллі да берагу, шукаць

25

лодку здаецца цяжкім, немажлівым. Вось-вось світанне. Няхай будзе, што мае быць, рызыкну! Ахоплены азартным хваляваннем, крочу далей.

Выходжу з-за павароту і падгінаюцца ногі. Асфальт губляецца ў тунелі, уваходзіць у мост старой канструкцыі. Над тунелем гарыць лямпачка. Справа — застылая постаць салдата ў касцы. Вартаўнік плячыма абапіраецца аб мур, прыклад вінтоўкі паставіў на асфальт, рукі паклаў на рулю. Дрэмле? Уцякаць? А калі прытаіўся і чакае? «Клюмпы» пачуў даўно. Толькі пабяжы — узніме трывогу, пусціць ракету, высыплюць з будкі дзяжурныя з сабакамі, — куды дзенешся, хутка дзень?!

Пакуль думаю, ногі мяне нясуць яшчэ на крокаў дзесяць апыняюся зусім ля немца. Салдат уздрыгвае, выходзіць на сярэдзіну тунеля. Карціць абмінуць яго і пайсці ў тунельчык для пешаходаў, але салдат палічыць гэта за слабасць. Сціскаюся ўвесь і крочу на немца. З прагнасцю звера ўжо адчуваю, дзе ў салдата шыя, горла, каб учапіцца; мой позірк мерыць вышыню ад парэнчаў да вады, куды махну цела...

Застаецца крокаў пяць. Ён нечакана адыходзіць на ранейшае месца і... прапускае мяне. Да такой ветлівасці я падрыхтаваны не быў і губляюся. Здаецца, што салдат цэліць мне ў плечы і зараз загоніць кулю. «Ну, хутчэй жа ты!» — падганяю ў думках, каб не паказаць, што баюся, не азіраюся. Стрэлу няма. Чую выразна свае крокі, яны ўсё больш гудуць па меры таго, як узыходжу на мост. Апыняюся ў цемры і толькі тут дазваляю сабе павярнуць галаву. Як скульптура рыцара, немец стаіць ля сцяны на ранейшым месцы і амаль зліваецца з фонам, расплываецца ў тумане. Прыглядаюся лепш, — стаіць! Хочацца заскакаць ад радасці. Толькі цяпер у другім канцы тунеля бачу зноў лямпачку, а пад сцяной — другога немца. Першы мог пазваніць, і гэты мяне чакае. Я ў цаглянай клетцы. Сцены гладкія, без дзвярэй і акон, у рэчку не выскачыш! Збіраюся ў спружыну для атакі другі раз.

26

Адбываецца прыкладна тое самае.

Гэты немец, мабыць, падумаў, што мяне правяраў першы. Гэтак сама ён выходзіць на сярэдзіну моста, а потым вяртаецца на месца, прапускае мяне. Не азіраючыся, не адчуваючы ног, не верачы таму, што адбываецца, аддаляюся ад моста.

Узбіраюся на чыгунку. Справа — старажытны Мар'ембургскі замак з адкіднымі мастамі і вартаўнічымі вежамі. Я і не падумаў тады, што гэта славуты замак Мальборг — былое гняздо мечаносцаў, адкуль псы - рыцары вырушалі нават і на маю Гродзеншчыну; замак апісаны Генрыкам Сянкевічам у «Крыжаносцах».

Апыняюся на станцыі. На запасным пуці — вагоны пасажырскага поезда. Улажу ў адзін, валюся на лаўку. Позна ўжо ехаць, хутка настане дзень. Прымушаю сябе ўстаць, абследую куткі. Пасажырскім не паедзеш, няма дзе схавацца. Трэба прыйсці сюды вечарам і пашукаць таварны. Праз акно падае святло ад лямпачкі. Над лаўкай — схема чыгунак заходняй Прусіі.

— Ты мне якраз і патрэбна! — узрадаваны, кажу уголас.

Выразаю схему, прыглядаюся. Трэба на стрэлцы падпільнаваць таварняк. Па схеме з Мар'ембурга ва ўсе бакі разыходзяцца пяць чыгунак. На пуці — не на шашы, надпісаў няма, мушу неяк даведацца, дзе патрэбная мне стрэлка, але на сёння хопіць. Хаваю схему, вылажу з вагона. Выбіраюся ў поле і зноў да баўэра ў гумно спаць!

Выспаўшыся ля Мар'ембурга ў гумне, заву я хлопчыка, які каровам бярэ сена. Гэта украінец, яго немцы прывезлі сюды на работу. Дамаўляемся хутка. Хлопчык прыносіць малака, хлеба, капусты, сала. А калі сцямнела, выводзіць мяне за гумно.

— Адгэтуль — проста на Варшаву! — паказвае на чыгунку.

Заходжу на станцыю. На нямецкіх таварных ваго-

27



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

